# Šlach Biełaruskaha Studenta

MIESIAČNY DADATAK DA „ŠLACHU MOŁADZI".

№ 3 (7) Vilnia, Sakavik 1939 h. Hod II.

# Pieršy zmahar za spravu adradžeńnia Biełaruskaha Narodu

Vialikaje značeńnie ŭ žyćci kožnaha narodu maje tradycyja, heroi ŭ zmahańni za jaho lepšy byt, baraćbity.

Asabliva heta važnym jość dla narodaŭ nia majučych svaich dziaržaŭ.



Kastuś Kalinoŭski i sialanie P. Sierhijevič

Bahatuju tradycyju maje Biełaruski Narod i za toje pa tak doŭhim času hłybokaha snu i biady prabudziŭsia da žyćcia, da adradžeńnia. Najbolšaja-ž zasłuha tut tych, što pieršyja pačali Jaho budzić, klikać da lepšaha žyćcia, ab jakich havoračy maju pieradusim na ŭvazie Kastusia Kalinoŭskaha, dyktatara Biełarusi i Litvy.

Kalinoŭski pieršy zahavaryŭ ab Biełarusach, jak ab nacyi, i pieršy pačaŭ budzić Narod. Vierny jamu až da kanca svajho žyćcia, jašče pierad paŭstańniem 1863 h. ŭ samadziałovaj śvitcy vandravaŭ jon ad vioski da vioski Horadzienščyny i budziŭ Narod da vyzvaleńnia. Jaho volnaha ducha nie mahli aputać ani rasiejskija kajdany, ani łaski.

U 1862 h. vydajeć pieršyja numary „Mužyckaj Praŭdy," jakaja pašyrajecca pa ŭsiej Biełarusi, prypaminajučy, što byŭ to kališci narod naš volny i bahaty, i zazyvajučy sialan rychtavacca da paŭstańnia i razam z Palakami vystupić prociŭ Rasiei.

Chutka vybuchaje pradbačanaje Kalinoŭskim paŭstańnie, da jakoha dałučajecca i jon sam, mocna vieračy, što ŭdasca padčas ahulnaj zaviaruchi zbudzić Narod i što razbudžany da voli budzie jon za jaje zmahacca z niavolačaj siłaj až da pabiedy. Jon spaŭniaje spačatku paŭstańnia abaviazki kamisara Horadzienščyny, kirujučy tut paŭstanckim rucham i budziačy Narod, a kali paŭstańnie pačało ŭpadać, jon uvieś jaho ciažar biare na siabie, — stanovicca dyktataram Biełarusi i Litvy. Ciažkaja była adnak dola paŭstańnia. Zmahańnie ŭžo vioŭ Kalinoŭski niatolki z rasiejskaj uładaj, ale i z panami.

Paŭstańnie ŭpadała, choć usie siły vytužvaŭ naš baraćbit. Papadajecca ŭ kancy ŭ ruki maskoŭskaj sile. Nie złamała adnak jana jaho, bo i tady, z za krat turmy, kličyć dyktatar Biełarusaŭ da baraćby z Maskalami až da pieramohi:

„Biełarusy, braty maje rodnyja! Z pad šybienicy maskoŭskaj prychodzicca mnie da vas pisaci i moža raz astatni. Horka pakinuć ziamlu rodnuju i Ciabie, darahi moj Narodzie! Hrudzi zastohnuć, zabalić serca, ale nia žal zhinuć za tvaju praŭdu... Vajuj, Narodzie, za svajo čałaviečaje i narodnaje prava, za svaju vieru, za svaju ziamlu rodnuju."

Upadak paŭstańnia mocna pryjšłosia adčuvać za kratami Kalinoŭskamu. Z jaho zbalełaj dušy vyryvajecca stohn:

„Usio prajšło, prajšło, jak-by nia byvała,
Adno—strašenna horyč u hrudziach zastała."

Ale i heta nia łomić volnaj, kachajučaj nad usio svoj Narod i Baćkaŭščynu dušy Kalinoŭskaha.

Pahromščyku paŭstańnia ŭ našym kraju Muraŭjovu-ž zdavałasia, što paviesiŭšy 10.III.1864 h. Kalinoŭskaha zakapaŭ na viečnyja časy jahonyja dumki ab Biełarusi. Adnak mocna pamyliŭsia. Čorny ŭspamin astaŭsia tolki pa Muraŭjovie ŭ pamiaci biełaruskaha i inšych narodaŭ, a navat nia dobrym imieniem uspaminaje ab im siańnia jaho ŭłasny rasiejski narod. Ideja-ž Kalinoŭskaha nie zahinuła. Jaje raźvivali dalej: Hurynovič, Bahuševič i celaja plejada inšych viernych synoŭ Biełaruskaha Narodu.

Vič

# Удар па славянстве

Перамены, якія з бліскавічнай хуткасьцю адбыліся ў м-цы сакавіку сёлета ў сярэдняй Эўропе, ўскалыхнулі апініяй цэлага сьвету. Як можна зар'ентавацца з прэсы, апошнімі падзеямі былі заскочаны ня толькі шырэйшы агул, але і перадавыя палітыкі заінтэрэсаваных дзяржаў. Паўстаньне „незалежнай" Славацыі, уключэньне Чэхіі ў межы Нямеччыны, аружнае прылучэньне Закарпацкай Украіны да Вугоршчыны—былі неспадзеўкай. Не зьяўляецца парадоксам цьверджаньне газэт асьвятляючых факт, што Мусоліні ня ведаў, Чэмбэрлен быў заскочаны, для Дэляд'ера і Бонната было гэта нечым нечаканым, а для іншых міністраў загранічных спраў было прыпадкам.

Апошнія падзеі—гэта ня толькі вялікі ўдар па дэмократычных дзяржавах, але перадусім па славянстве. Падпарадкаваньне двух славянскіх народаў нямецкаму імпэр'ялізму балюча закранула кожнага здарова думаючага славяніна, бяз узгляду на яго палітычныя пагляды і перакананьні.

Зьліты, сцэмэнтаваны гэрманізм уядаецца ў жывое цела славянства, для асягненьня вялікіх матар'яльных карысьцяў, для заспакаеньня сваіх вывышшаных нацыянальных амбіцыяў, не спатыкаючы на сваёй дарозе рашучага адпору. Кліч Бісмарка „Drang nach Osten" рэалізуецца. Чэхія бяз выстралу, бяз крывавага пратэсту аддала сябе ў чужацкія рукі, выракласяя таго, што зьяўляецца найдаражэйшым для кожнага народу—незалежнасьці. Славацыя абвесьціла самастойнасьць, якая аказалася толькі фікцыяй і трывала фармальна толькі адзін дзень, бо за гэткі кароткі час перайшла яна вялікую эволюцыю— ад незалежнасьці да гітлероўскай апекі, а далей аж да нямецкага протэктарату.

Што зьяўляецца ўсяго гэтага прычынай? На гэтую тэму шмат пішацца ў цяперашняй прэсе і кожны сваім спосабам стараецца выясьніць гэтыя падзеі. Адныя выясьняюць гэта адасабленьнем Чэхаславаччыны ў апошнія часы, што проста змусіла яе да збліжэньня з Нямеччынай і што ў канцы прывяло да гэткага рэзультату. Другія цьвердзяць, што прычынай гэтага ёсьць маральны занапад чэскіх кіруючых кругоў, якім не памог нават вялікі дасюлешні росквіт Чэхаславацкай Рэспублікі,як на эканамічным, так і навуковым грунце.

Ахілесавай пятой Чэхаславаччыны была, бязумоўна, справа сужыцьця Чэхаў і Славакаў, якая і прывяла да гэтай катастрофы. Ад самага паўстаньня гэтай дзяржавы былі вялікія разьбежнасьці на грунце нацыянальных правоў, якія ня толькі што ня былі належна вырашаны, а штораз больш паглыбляліся, сеючы ўзаемную ненавісьць. Нацыянальная палітыка ўраду ня спрычынілася да зацясьненьня вузлоў прыязьні, капала роў недаверра і антаганізму, выклікала гнеў і абурэньне, нутраны фэрмэнт, аслабленьне, вынік якога цяпер бачым. Гэта сьведчыць, што справа нацыянальных правоў, якая цяпер сталася больш актуальнай, чым калі небудзь у мінуўшчыне, ня можа быць трактаваная лёгкадумна. Кожны народ мае свае прыродныя правы, якіх ён ніколі ня вырачыцца, якіх ня здолее зьністожыць ніякая сіла. Моцна мыляюцца тыя, якія думаюць, што жывы народ можна падпарадкаваць назаўсёды, засымільваць, зьністожыць фізычнай сілай, што ягоныя правы можна перачыркнуць адным росчыркам пяра. Бо ня зьністожыць жывога народу найбольш хітрая палітыка, ані фізычная сіла,— можа яго толькі пабудзіць да большай скансалідаванасьці, можа напоўніць яго сэрца ненавісьцю да сваіх апякуноў, можа давясьці да крайнасьці ў сваіх чынах.

Пад уплывам апошніх падзеяў многія дзяржавы закрычалі ў адзін голас: „трэба зброіцца, узмацняцца." Пасыпаліся надзвычайныя буджэтавыя дадаткі на ўзбраеньне, кіраўнікі ўрадаў дамагаюцца надзвычайных поўна-

# Шуміць асака

Хістаецца асака над люстрам вадзяным, калышыцца, углыбляецца ў нетры сініх глуш, дрэмле, засынае лёганька шалешчучы. Трава прылягла нізенька да мокрых пуцявін і слухае ўсё шопатаў нямое цішыні. Углядаецца, як лілеі бялеюцца грудзьмі і жоўтым вочкам міргаюць прыветна глыбіні. Зьвініць канёк між траў густых у зелені лугоў і туркаюць казюльчыкі на кветкавых лістках. Жар сонечны калышыцца ў летняй яснаце, шаўковай павуцінаю дрыжыць на рубяжы шырокае даліны і сініх небясоў. А возера крыштальнае ўсё моршчыць сваю гладзь. Дробненькія хвалі да берагу бягуць, пеняцца і скачуць, шумяць, пераліваюцца, дрыжаць пад подыхам ветру, хаваюцца ў лілеі, пяюць, гудуць і нікнуць на беразе жвіровым у мушлях пэрлатворных. Блакіт сьмяецца ярка і хмаркамі трасе, зганяе іх ўсе разам, ці па аднэй ляцеці кажа хутка ў далёкія краі, дзе трэба дождж ам упасьці на ссохшую зямлю. І сонца йскрыцца ў хвалях, сярэбрыць іх сьвятлом і ясныя касулі ўплятае ў сінь вады, спускаецца ўсё ніжэй па мяккім небасхіле і хоча пакупацца ў халоднай глыбіні. Ярчэй усё чырванее, кідае высь нябёс, залоціць яшчэ хмаркі пурпураю вагню і ў возера спускаецца жар свой пагасіць. Цямнее край нябёсаў, гіне сінь вады, а зелень з лугоў суне да сонца ў глыбіні.

І новыя зноў чары адкрыліся тут. Блішчаць на небе зоркі, міргаюць у вадзе, навокал сьвет дрыжыць іх. Усюды, усюды зоры, дзе глянеш зоры,зоры і зелень аксаміту і ноч дрыжыць ад зораў і імі толькі дыша.

Плюск хваляў, шум асакі, шорах белых лільяў, сон травы пахілай, дрыжаньне сіні вокал — усё гэта песьні ночы. Лятуць яны высока, далёка і шырока, увозеры нуртуюць, гавораць пра былое, гудуць у каменьнях, у жвіры прыбярэжным, у схіленых галоўках паснуўшых летніх кветак.

Пяюць пра стрэху нізку, пра скрыўленую хатку, дзяўчыну маладую, пра звонкі яе голас, сьмех і цёмны вочы, пра матаньку старую і грудзі, што ўпалі глыбака ад кашлю, і сэрца, што так моцна без адпачынку б'ецца птушкаю ў клетцы і просіцца на волю, на сьвет ясны, шырокі, пабачыць сонца, месяц, зоры й грушу кучараву, што пад страхою дрэмле і косы расплятае ёй вецер баламутнік.

— Ня плач, мая дачушка—гаворыць сумна маці,—надоўга пажыву я, самой трэ' прывыкаці. Нярaз у ночку цёмну прыду цябе адведаць, як будзеш смачна спаці. Зірну я праз ваконца, ці зорачкай, ці коскай сярэбранай ад месяца. А можа пахам кветак прыду к' табе вясною, як будзеш падліваць іх крынічнаю ва-

# Ahulny hadavy schod Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu

26 minułaha miesiaca adbyŭsia ahulny hadavy spravazdaŭča-vybarčy schod Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu. Schod adčyniŭ staršynia ŭstupajučaha Uradu BSS k. A. Dasiukievič, vitajučy prysutnaha Kuratara Sajuzu praf. Dr. Ervin Koschmiedara i prapanujučy vybrać staršyniu Schodu.

Na staršyniu schodu byŭ vybrany k. M. Ščors, paśla čaho nastupiła spravazdača ŭstupajučaha Uradu BSS. Spravazdača heta karotka pradstaŭlajecca nastupna. Lik siabroŭ u Sajuzie siahaje da 70-ci asob. Ad sakavika 1938 h. da lutaha 1939 h. Urad sarhanizavaŭ: 1) 10 śniežnia „Vialiki kancert biełaruskaj narodnaj pieśni“ z učaściem słaŭnaha śpievaka hr. M. Zabejdy-Sumickaha; 2) try uračystyja akademii, pryśviečanyja: adna—10-m uhodkam śmierci staršyni Uradu Biełaruskaj Narodnaj Respubliki, druhaja—pamiaci vydatnaha biełaruskaha dziejača Tamaša Hryba, treciaja—18-ym uhodkam Słuckaha Paŭstańnia; 3) siem publičnych lekcyjaŭ i try dyskusyjnyja viečary; 4) try viečaryny, zapaznaŭčuju harbatku dla novaŭstupajučych siabroŭ BSS, humarystyčny viečar „Andrejki-Mikołki“ i viasnoj adnu ekskursiju ŭ Verki.

Prychod kasy składajecca z siabroŭskich składak, dachodaŭ z kancertaŭ i viečarynaŭ i z achviaraŭ; hrošy byli davanyja jak karotkaterminovyja pazyčki siabram BSS i pakryty imi roznyja raschody. Apriača hetaha na sumu niekalki tysiač złotych Sajuz maje veksali, jakija pastanoŭlena ŭ mieru mahčymaści realizavać šlacham egzekucyi.

Biblijateka Sajuzu dziakujučy achviaram kniharniaŭ i paasobnych asob pavialičyłasia za hety čas na 130 knižak. Najbolš knižak achviaravała kniharnia „Pahonia.“

Paśla spravazdačy Uradu była spravazdača Revizyjnaj Kamisii z prapanovaj pryznańnia ustupajučamu Uradu BSS absolutoryi z padziakaj za pracu. Schod prapanovu pryniaŭ.

Nastupna adbylisia vybary novych uładaŭ BSS. U Urad uvajšli: k. Karol Usievaład — staršynia, k. Najdziuk Česłaŭ—vice-staršynia, k. Leŭkavičanka Nina — sekratar, k. Šeška Kastuś—skarbnik i k. Luściber Vitali—haspadar. U Revizyjnuju Kamisiju ŭvajšli: k. M. Smarščok, k. Luba Marcinčyk i k. V. Jermałkovič.

Ahulny Schod pastanaviŭ: vysłać padziaku Ks. Ad. Stankieviču za pomač dla Sajuzu, złažyć padziaku hr. Ryhoru Šyrmie za kiraŭnictva Studenckim Choram i ŭsim tym, što matarjalna i maralna padtrymlivali biełaruskaje studenctva.

U kancy vyniesiena mnoha pastanoŭ i pažadańniaŭ, miž inšym: 1. ustrymlivacca ad užyvańnia alkaholnych napitkaŭ i pašyrać prociŭalkaholnuju akcyju na vioscy, 2. zapratestavać suproć ukłučańnia Ukrainskaj Parlamentarnaj Reprezentacyjaj u miežy etnahrafična ukrainskich ziamiel niekatorych biełaruskich pavietaŭ na Paleśsi, 3. aktyŭna pryčyniacca da ŭzbahačańnia Biełaruskaha Muzeju im. Iv. Łuckieviča ŭ Vilni, a tak-ža staracca pałapšać jahonaje ciažkoje matarjalnaje pałažeńnie.

Kančajučy spravazdaču iz schodu Biel. Stud. Sajuzu, novamu kiraŭnictvu hetaje arhanizacyi žadajem płodnaje pracy!...



моцтваў і г. д. і г. д. Праўда, кіруючыя дзяржавамі дзейнікі цяпер добра ўсьведамляюць, што ўзброеная армія— гэта яшчэ ня ўсё, што яна павінна мець ад народных масаў агульнае маральнае падтрыманьне. А пакульшто дзяржавы агранічаюцца пераважна да гэткіх агульных фразаў, баючыся відаць разстацца з сваёй традыцыйнай палітыкай, па якой ішла і Прага. Тымчасам толькі маральнае падтрыманьне і сужыцьцё грамадзян створыць моцную рэальную сілу. Але гэткае сужыцьцё і маральнае падтрыманьне могуць выклікаць толькі шырокая толеранцыя і сапраўдныя магчымасьці для сужыцьця, а не агранічаньне гэтых магчымасьцяў.

**Ірк.**

дою, каб не павялі ў поўдзень пад сонейкам гарачым. Прыду к' табе я хваляй з над берагу крутога і буду ўсьцяж шумеці і плюскацца аб скалы. Хачу ўсё быць з табою, пабачыць тваё гора, сьлёзы маладыя і твар твой загарэлы. Хачу я слухаць песьню, што ў полі ты зацягнеш, як будзеш жыта жаці і ставіць хлеб у копы. Ня плач цяпер, дзіцятка, я адыйсьці ўжо мушу. Во! клічуць мяне зоры і вечар над зямлёю, а там сьвятло міргае, калышыцца і скача, туды, туды я мушу,—тут цёмна, сумна, страшна.

— Ня йдзі, ня йдзі матуля, я запалю ўсе зоры, агонь ад іх прыбудзе і я табе дастану той дзіўны сьветач ночы.

— — — — — — — — —

Ужо бяжыць праз поле сярод травы і жыта і топча васілёчкі сьмелаю нагою. За ёю хмара косаў уплятаецца ў калосьсе. Вагонь усё бліжэй, бліжэй. Густыя травы плачуць, шкада ім сіл дзявочых, моладасьці, вочак, што так гараць, як зоры. Для маткі старавіны ляціць па сьвет той дзіўны, што клікаў яе ўночы, маніў халодным блескам у сваё валадарства. Ужо самлелі ногі і грудзі захрыпелі, а шмат яшчэ дарогі. Бяжыць, бяжыць дзяўчына. Ужо блізка яе мэта, агонь дасягне хутка і прынясе для маткі. Дрыжаць ад сьвету рукі. Ужо яго схапіла. Ірдзіцца блескам сонца, пячэ, як чырвань жару. О не, нястрашны мукі,—той скарб ёй так патрэбны. Нясе яго для маці, што на вагонь чакае.

Ізноў густыя травы калышуцца ў сьне ночы. А сэрца б'ецца, б'ецца, як птушка,—хоча волі.

— Куды ляціш, шалёна, із валадарства сьмерці? Вагонь забраці хочаш, што душы вабіць ноччу? За сьмела разважаеш, ня вернешся да хаты, вагонь— наш скарб адвечны!..

— Ня дам!...

— Ах, мама, мама!..

— — — — — — — —

Трава раптоўна гіне, ніжэй, ніжэй калені, навокал хвалі, хвалі. Шуміць вада, гудзіць, зьвініць сінь даляў. Калышуцца крышталы, блакіты хваль сьцюдзёных і пеняцца хрыбеты, а пад нагамі жвір бунтуецца і скача між цемені глыбін. Ірдзяцца ў небе зоры, дрыжаць у халодных водах, купаюцца і звоняць начною цішынёй.

А сонца заблішчэла на бледным небасхіле, расхінулі галоўкі лілеі сярод тоні. Міргаюць жоўтым вочкам, праменьнем серабрыстым і ціхую мэлёдыю пяюць пра чар вясны,—пра моладасьць і сілу, пра яснасьць дум дзявочых і сэрца, што любіла так моцна на зямлі.

Сінее небасхіл, ірдзяцца ў сонцы хвалі, а асака шуміць.

**Раса**

*„...Скажам—сказаў без'языкі..“*

# Спартовыя разважаньні

Спорт, грамадзяне, штука хітрая і няясная. Бо й што такое спорт?—На гэта і сам Салямон не адказаў-бы... А мо' і адказаў-бы—хто яго там знае... Ды, урэшце, справа ня ў тым—мы і без Салямона разумныя.

Вось я думаў: Як азначыць, што такое спорт? Ды ніяк выдумаць ня мог: усё, бачыце, нелёгічнасьці ды супярэчнасьці выходзяць — бяз поў-бутэлькі не разьбярэш. Прабаваў я зварочвацца да спортмэнаў—тыя пэўне выясьняць. А знаёмых спортмэнаў у мяне шмат — хоць гаць гаці — толькі выясьнілі то яны мала...Кожны чэмпіён кажа нешта сваё:—„спорт гэта найлепшы спосаб перамагаць сябе,“ „спорт гэта барацьба,“ „найгалаўнейшае дасягненьне апошніх часоў,“ „развіцьцё цела,“ „гульня“ і г. д.

З усіх гэтых дэфініцыяў знатакоў мне найбольш спадабалася апошняя: спорт—гэта гульня. Бо-ж бачыце, грамадзяне, калі спорт раўняецца гульні, дык і я спортмэн, бо і мне здараецца часамі гуляць, а ў гульні ў шахматы я на адным турнеі заняў нат' трэцяе месца (праўда, удзельнікаў у турнеі было толькі трох).

Ну, а быць спортмэнам - гэта, грамадзяне, у нашыя часы простая дарога да славы. Папытайцеся ў каго-небудзь пра Гомэра ці Эдысона, дык аб іх і ня чулі. Затое пра Оўэнса ці іншага Шмэлінга цэлы сьвет знае. Шкада толькі, што ня ўсе лічаць спорт гульнёй—іншыя глядзяць на гэтую справу паважней, інакш тлумачаць. А ў рэзультаце я так і ня ведаю, што такое спорт.

Але хоць на сэрцы адлягло—не адзін я ня ведаю... Ды ўрэшце, што там дэфініцыя! Асабліва ў нашыя часы... Пагаворым пра іншае.

Чытаю раз газэту... Гляджу — на першай старонцы малюнак—два боксэры лупяцца кулакамі Пад малюнкам энтузыястычная зацемка пра гэта „стойкае змаганьне“,у каторым адзін са спортмэнаў зламаў другому рабро, а сам затое тры разы спыняў кроў з носа...На малюнку відаць і публіка: людзі захапляюцца, б'юць брава і паліцыя, заўважце, глядзіць, а ня ўмешваецца. Спорт... А на апошняй старонцы ў той самай газэце кароценькая запіска: „Учора вечарам паліцыя затрымала на Ціхай вуліцы двух хлапцоў затое, што яны біліся і крычэлі.Бойка была на кулачкі.“

Вось табе і маеш! Тут я ўжо і не разумею.

Чаму адзін раз біцца — спорт, іншы раз—праступак?

Альбо такая справа: рэкорды.

Пытаюся я раз у аднаго спортмэна: нашто вам, братка, у спорце рэкорды?.

А той на мяне як ня кінецца (ён, бачыце, якраз нейкі там паветавы рэкорд пабіў): Як нашто?! - кажа.—Ці ты, кажа, разумееш, пра што пытаешся?! Рэкорд,кажа,гэта сутнасьць спорту!

Я і замоўк... Дзе мне, шэраму чалавеку, з рэкордыстам дыскутаваць!—Так і ня ведаю, нашто рэкорды...

А вось ёсьць яшчэ адно рэкордавае пытаньне: жаноцкія рэкорды.

Была сабе пару год назад у Чэхаславацыі (эх, калі тое было!) нейкая Коубкова. Слаўная асоба. Рэкордыстка. Такія рэкорды махала, што ажно мужчыны палохаліся. Чэхі перад Алімпіядай толькі рукі пацiралі: вось будзе мэдаляў, вось слава! Але... рэкордыстцы збрыдла спадніцу насіць. Пахадзіла да дохтара, парадзілася, ды аказваецца, што яна ўжо ня Коубкова, а... Коубэк - мужчына! Вось табе і маеш!

Дзіўнае здарэньне! Можна сказаць— мэтафізычнае. Жывы прыклад вандраваньня душы. Рэінкарнацыя...

Але вось якое спортавае значэньне гэтай справы! Значыцца, рэкорды біў такі мужчына! І рэкорды ў такім выпадку ня рэкорды!...

Тое самае было з Смэнткам, тое кажуць і пра іншых рэкордыстак.

Адным словам — справа цёмная.

Можна было-б і іншае пра спорт напісаць. Ну, але ўсё-ж, грамадзяне, не падумайце, што я вораг спорту, калі аб ім гэткія рэчы пішу. Барані Божа!

Спорт мае свае вартасьці Чаму не? Нат' вялікія вартасьці.

Вось хоць-бы тое, што спорт падтрымлівае згоду між народамі. Гэта ўвесь сьвет прызнаў... Як адчынялі Алімпіяду ў Бэрліне, дык адумысны самалёт прывёз проста з Грэцыі аліўкавую галінку— сымболь згоды. Ну, ці-ж ня прыгожа?

Праўда, кажуць людзі, што вёз гэтую галінку бомбавоз, бо іншых самалётаў у Нямеччыне амаль няма, але я ня веру. Ды ў кожным выпадку, даказана, што нідзе па дарозе гэты самалёт бомбы ня сьцінуў. Ды мала што злыя языкі кажуць...

Мае спорт і іншыя вартасьці. Асабліва цаню я ў ім практычныя, так сказаць, бакі. Напрыклад—такая спортавая мода. Цудоўная!

Бывала некалі пакажыцца чалавек вясной на вуліцы з ботамі „на босую нагу,“ дык на яго амаль пальцамі паказваюць. А цяпер усе—ад старога да малога—нятолькі без шкарпэтак, але амаль бяз ботаў ходзяць. Прычэпіць сабе раменчыкамі кавалак скуры да ступкі і ходзіць з фасонам.Ну, што—дрэнная мода?

Тут вам усё: вэнтыляцыя, прастор, гігіена, а галоўнае — ашчаднасьць.

Падумаць—цэлае лета шкарпэтак ня толькі купляць, але і мыць ня трэба. Ды і ботаў латаць ня трэба: чым больш яны „есьці просяць“ ды чым больш з іх пальцаў вылазіць, тым больш модныя.

А ўсё дзякуючы спорту!...

А можа й не. Некаторыя даказваюць, што найбольш спрычыніўся да паўстаньня гэтае моды ня спорт, а... крызыс. Хто яго ведае, мо' гэта і праўда — на вёсцы-ж даўно і бяз спорту босымі людзі ходзяць... А ўсё ж мода завецца спартовай.

Так, грамадзяне, спорт—штука хітрая... няясная. .Найлепш аб ім шмат ня думаць: спорт—гэта спорт...

І скончана...

ВУК

**Kožny student Biełarus pavinien naležać da biełaruskich studenckich arhanizacyjaŭ.**

**Biełaruski Studencki Sajuz mieścicca: Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2 (pry drukarni). Dyžury adbyvajucca što-dzień ad hadziny 18.30 da 21.**

## Папраўляем памылку з № 2(6) „Шл. Бел. Студ.“:

У № 2 „Шляху Беларускага Студэнта“ ў артыкуле „Рэвалюцыя, якая падняла дэмакратычныя клічы“, у 7 радку (на пачатку артыкулу) перад словам работнікаў, праз недагляд друкара і карэктара, прапушчана слова: **мяшчан**, што мяняе сэнс.

